# З ДНЕМ ПЕРАМОГІ, ДАРАГІЯ ВЕТЭРАНЫ!


# НАВІНЫ



**Беларускай акадэміі**

Выходзіць з кастрычніка 1979 г. ● № 16 (695) ● 7 мая 1993 г. ● Цана 1 руб.





*МІНСК. 3 ЛІПЕНЯ 1944 ГОДА.*

АНДРЭЙ ГАНЧАРЭНКА:

## «Цяжкасцей хапае, але развальвацца мы не збіраемся»

У Акадэміі навук Беларусі вырашаецца пытанне аб святкаванні дня беларускай навукі. Інстытуту гісторыі ўжо дадзена заданне знайсці найбольш знамянальны для нашай навукі дзень, і ўраду будзе прапанавана зрабіць яго днём беларускай навукі. Як бы тое ні было, але нават былое свята, Дзень савецкай навукі, па традыцыі, з'яўляецца нядрэннай нагодай пагаварыць аб праблемах беларускіх вучоных. Слова Галоўнаму вучонаму сакратару прэзідыума Акадэміі навук Беларусі, акадэміку Андрэю Ганчарэнка:

— Найперш я павінен адзначыць галоўнае: навуковы працэс працягваецца, многія вынікі навуковых даследаванняў знаходзяцца на вельмі высокім узроўні, па-ранейшаму ўносяць вялікі ўклад у фарміраванне базы ведаў аб прыродзе і грамадстве. Канешне, немагчыма пералічыць усе значныя дасягненні, але прывяду толькі два прыклады работы за мінулы год. Нашымі вучонымі распрацаваны метад і аўтаматызаваная апаратура для дыягностыкі паталогіі шчытападобнай залозы ў інфрачырвоным і субмілімятровым дыяпазонах, апрабаваны методыкі іх прымянення ў клінічных умовах. Зразумела, наколькі неабходна такая праца менавіта для Беларусі. І другая вынаходка, за якую, дарэчы, нашы навукоўцы атрымалі галоўны прыз міжнароднага конкурсу па распазнанню вобразаў. Імі былі прапанаваны арыгінальныя алгарытмы пераўтварэння пісьмовага тэксту ў гутарку і наадварот, заснаваныя на новым мікрахвалёвым метадзе.

Аднак, безумоўна, усе гэтыя дасягненні не азначаюць, што ў нас няма праблем. Колькасць супрацоўнікаў Акадэміі навук скарацілася за год больш чым на дзве тысячы, назіраецца зніжэнне тэмпаў росту колькасці маладых вучоных у акадэмічных установах, значна паменшылася лічба аспірантаў. Але нас вельмі здзіўляе, што ёсць журналісты, якім, здаецца, вельмі хочацца, каб беларуская навука ўвогуле развалілася. Толькі так мы можам расцаніць учарашняе паведамленне агенцтва РІД, паводле якога за мінулы год з АН нібыта эмігрыравала каля 900 вучоных. Гэта проста хлусня. Супрацоўнік міжнароднага аддзела АН П. У. Князеў, на якога спасылаўся РІД, сказаў мне, што нічога падобнага ён журналісту не гаварыў. Ды і не мог гаварыць, бо з акадэміі за мяжу ў 1992 годзе эмігрыравала літаральна некалькі чалавек. Іншая справа, што ў мінулым годзе акадэмія накіравала ў замежныя камандзіроўкі ў 29 краін 872 вучоных і спецыялістаў. Відаць, якраз гэтую лічбу і «пераблытаў» карэспандэнт РІДа.

Спадзяюся, што разваліць, расхістаць акадэмію нікому не ўдасца, бо і ўрад, і Вярхоўны Савет у прынцыпе разумеюць, што без сапраўднай, высокаразвітай навукі наша дзяржава не можа існаваць.

**АД РЭДАКЦЫІ: Андрэй Маркавіч меў на ўвазе інфармацыю «Чем думать будем?», надрукаваную 16 красавіка ў газеце «Звязда». На жаль, наша газета, недастаткова праверыўшы прыведзеныя факты, інфармацыю перадрукавала, спадзяючыся на высокі аўтарытэт самай старэйшай беларускай газеты. Інфармацыя ж аказалася самай сапраўднай «уткой», а яе аўтар А. Рамановіч — фальсіфікатарам, падманшчыкам.**

**Рэдкалегія «Навін Беларускай акадэміі» просіць за гэты факт прабачэння ў сваіх чытачоў і запэўнівае, што ў далейшым неправераным фактам і з'явам на яе старонках месца не будзе.**

**Праз пэўны час аб сапраўдным стане супрацоўніцтва беларускіх вучоных з замежнымі нашым чытачам раскажа начальнік Аддзела міжнародных сувязей АНБ А. Р. Пышненка.**

## ВА ЎЗАЕМНЫХ ІНТАРЭСАХ

**У сакавіку-красавіку г. г. дэлегацыя Акадэміі навук Беларусі на чале з Галоўным сакратаром прэзідыума акадэмікам А. М. Ганчарэнка па запрашэнню Лонданскага Каралеўскага Таварыства наведала Вялікабрытанію.**

**У час візіту дэлегацыя азнаёмілася з англійскімі і шатландскімі навуковымі цэнтрамі, абмеркавала пытанні супрацоўніцтва з кіраўніцтвам і Аддзелам міжнародных сувязей Таварыства.**

**У выніку перагавораў было падпісана Пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве паміж Акадэміяй навук Беларусі і Лонданскім Каралеўскім Таварыствам. Абодва бакі будуць падтрымліваць праекты вучоных, прадстаўляючых узаемны інтарэс, садзейнічаць правядзенню навуковых семінараў.**

**Ініцыятыва аб супрацоўніцтве або проста візіту ў Вялікабрытанію павінна зыходзіць непасрэдна ад нашых інстытутаў. У выпадку зацікаўленасці англійскія навуковыя ўстановы звярнуцца ў Каралеўскае Таварыства з мэтай выдзялення сродкаў для фінансавання навуковых праектаў супрацоўніцтва або візітаў беларускіх вучоных.**

**Вяртаючыся на радзіму, дэлегацыя наведала Французскую акадэмію навук у Парыжы і абмеркавала пытанні ўзаемадзейнасці дзвюх акадэмій.**

**А. ПЫШНЕНКА,**
**начальнік Аддзела міжнародных сувязей АНБ.**

## *КОНКУРСЫ*

**Паважаныя чытачы! Рэдакцыя штотыднёвіка «Навіны Беларускай акадэміі» аб'яўляе конкурс на лепшую назву газеты, якая б раскрывала ўсе бакі жыцця АНБ.**

**Аб вашых прапановах пішыце нам па адрасу: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1. Пакоі 311, 313. Тэлефануйце па т. 39-46-12 і 39-54-51.**

**Абяцаем, што пераможца конкурсу будзе прадстаўлен праз газету нашым чытачам.**

## ВАКАНСІІ

**АНК «Институт тепло- и массообмена им. А. В. Лыкова» АН Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантной должности младшего научного сотрудника по специальности «Теоретические основы теплотехники».**

**Срок конкурса — один месяц со дня опубликования объявления. Справки по тел. 395-491.**

# НАВУКОЎЦЫ САБРАЛІСЯ Ў БРЭСЦЕ

Год назад у Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны нечакана завіталі польскія калегі — кіраўнікі Фундацыі імя Анджэя Фрыча Маджэўскага прафесар Эдвард І. Палыга і доктар Войцех Агнежа. Тады ж, пасля нядоўгіх перамоў, было заключана паміж гэтымі дзвюмя ўстановамі пагадненне пра навуковае супрацоўніцтва. І вось першае буйное сумеснае мерапрыемства — міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуска-польскае ўзаемадзеянне ў грамадска-палітычнай, культурнай і адукацыйнай сферах», арганізаванае пры непасрэднай дапамозе Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, пры ўдзеле Брэсцкага аддзялення Беларускага фонду культуры і Брэсцкага аддзялення саюза палякаў Беларусі.

Навукоўцы з розных рэгіёнаў Беларусі і Польшчы сабраліся ў Брэсце, на мяжы дзвюх дзяржаў, у гасцінных аўдыторыях мясцовага пэдінстытута. За два дні на пленарным і чатырох секцыйных пасяджэннях было заслухана і абмеркавана каля пяцідзесяці дакладаў па актуальных пытаннях беларуска-польскага ўзаемадзеяння, з якімі выступілі прафесары С. Александровіч, А. Баршчэўскі, У. Грабскі, Т. Дамбкоўскі, У. Калеснік, Г. Малажай, А. Мальдзіс, дацэнты М. Дабрынін, Л. Сушкевіч, С. Кавалёў, Д. Караў, Г. Няфагіна і інш.

Своеасаблівым сюрпрызам для польскіх гасцей з'явіліся тры даклады пра дзейнасць патрона іх Фундацыі А. Ф. Маджэўскага, адзін з якіх зрабіла наша зямлячка, дацэнт Марыйскага універсітэта (Йашкар-Ала) Вера Новік. Трэба сказаць, што праз дзесяць гадоў польская і сусветная культурная грамадскасць будзе адзначаць 500-годдзе з дня нараджэння гэтага выдатнага асветніка эпохі Адраджэння. У нас жа ў Беларусі, у Лоску (Валожыншчына), С. Будны ўпершыню выдаў у перакладзе з лацінскай мовы на польскую са сваёй арыгінальнай прадмовай трактат А. Ф. Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577).

Навукоўцы дамовіліся праводзіць канферэнцыі па вывучэнню беларуска-польскага культурнага ўзаемадзеяння перыядычна. На наступнай канферэнцыі, якая мае адбыцца праз год у Польшчы, польскія вучоныя абяцалі аддзякаваць сваім беларускім калегам тым жа — дакладамі пра патрона Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра першадрукара і асветніка Францыска Скарыну.

Вячаслаў РАГОЙША.

# Аб палітыцы і рынку

Секцыя праблем тэорыі і метадалогіі арганізацыйна-упраўленчай дзейнасці і падсекцыя палітычнага прагназіравання правялі нядаўна сумеснае пасяджэнне Навуковага Клуба міждысцыплінарнага аналізу і сінтэзу ў галіне арганізацыйна-упраўленчай праблематыкі.

З дакладам, які быў прысвечаны аналізу сучаснай палітычнай сітуацыі і прагнозу яе далейшага развіцця як на глабальным узроўні, так і канкрэтна для Беларусі, выступіў дырэктар цэнтра сістэмных сацыяльна-эканамічных даследаванняў Акадэміі ўпраўлення пры Савеце Міністраў РБ І. І. Антановіч. Праблемы, выкладзеныя ім на высокім прафесійным узроўні, сталі тэмай далейшай ажыўленай дыскусіі.

Не меншую зацікаўленасць выклікаў і другі аналітычны даклад, зроблены доктарам эканамічных навук, намеснікам дырэктара Інстытута эканомікі В. І. Тарасавым аб эфектыўнасці рыначных пераўтварэнняў. У ім глыбока і кампетэнтна была раскрыта асноўная сутнасць сучаснага эканамічнага руху ў Беларусі, Расіі і СНД. У заключэнні дакладчык адказаў на шматлікія пытанні.

Цікавым быў агульны абмен думкамі аб цяперашнім сацыяльным крызісе і шляхах выхада з яго.

Інтэлект спецыялістаў самых розных галін навуковых ведаў уяўляе сабой магутны рэсурс нацыі, які яшчэ далёка недастаткова выкарыстоўваецца для перадолення хаосу, у які аказалася ўцягнута грамадства. Навуковая сувязь, дэфіцыт якой яўна адчуваецца ў цяперашні час, з'яўляецца важнейшым фактарам мабілізацыі інтэлектуальнага патэнцыялу вучоных. На папаўненне гэтага дэфіцыту і на выпрацоўку канструктыўных ідэй у ходзе сумеснага мазгавога штурму і накіравана дзейнасць клуба.

(Дадатковую інфармацыю аб дзейнасці клуба можна атрымаць па т. 39-57-40).

А. КАЛЕСНІКАЎ.

# ПЛЁННАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

Адбылося чарговае пасяджэнне секцыі праблем тэорыі кадравага патэнцыялу Навуковага Клуба. На ім з выкладаннем канцэпцыі развіцця адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь выступіў міністр адукацыі У. А. Гайсёнак. Удзельнікі пасяджэння глыбока пранікліся вялікасцю, складанасцю, надзвычайнай значнасцю, узаемазвязанасцю задач і праблем у галіне адукацыі, якія ўзнікаюць у нашай краіне. Таксама высока ацэньвалася сістэмнацэласнае багацце асноўных канцэптуальных напрамкаў і прапанаваны шляхі іх комплекснага вырашэння.

З пытаннямі, развагамі аб сувязі адукацыі і навукі, у прыватнасці, аб навядзенні больш цеснай узаемасувязі і плённага ўзаемадзеяння акадэмічнай і вузаўскай навукі выступілі акадэмікі І. Я. Навуменка, Г. М. Лыч і член-карэспандэнт У. А. Бабкоў. Дакладчыкі далі вычарпальныя адказы і на іншыя шматлікія пытанні ўдзельнікаў пасяджэння.

Г. ЖЭБІТ,
вядучы
Навуковага Клуба.



*МІНСК. МАЙ 1993 ГОДА.*

◆ *АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАБЛЕМУ* ◆

# Ваш жыццёвы прынцып

Сацыёлагі рэспублікі ўсё больш актыўна ўключаюцца ў вывучэнне нацыянальных адносін, у тым ліку праблемы мовы. Аднак многія з апублікаваных вынікаў сацыялагічных даследаванняў выклікаюць як у спецыялістаў, так і ў шырокай грамадскасці шэраг пытанняў адносна іх метадычнай дасканаласці.

Доктар філасофскіх навук, загадчыца аддзела Інстытута сацыялогіі Г. М. Сакалова апублікавала артыкул «Мова мне сябар» («СБ», 13.08.92 г.), у якім па выніках даследаванняў зроблена выснова аб зніжэнні інтарэса да беларускай мовы. Гаворка тут ідзе не аб 30-х ці 50-х гадах, калі пастаноўка пытання аб дзяржаўнасці беларускай мовы была б не менш небяспечнай, чым аб адмене славутага 6-га артыкула Канстытуцыі, а аб 1989 і 1992 годзе. Менавіта ў гэтыя гады здарылася, па ацэнцы аўтара артыкула, падзенне інтарэса да беларускай мовы. Але ж, што называецца, «аудыявізуальныя факты» сведчаць аб зваротнай тэндэнцыі. Упершыню за многія гады на беларускай мове абмяркоўваюцца дзяржаўныя праблемы. Наша мова гучыць у ВНУ, школах, дамах, на радыё і тэлебачанні, на вуліцах і ў грамадскім транспарце. Па-беларуску гавораць айчынныя афіцэры і камерсанты, многія замежныя дыпламаты ведаюць альбо вывучаюць яе. Не гаворачы ўжо аб сельскай мясцовасці, дзе на рускую мову большасць насельніцтва і не пераходзіла. Узрос попыт на беларускія газеты і часопісы, на кнігі па гісторыі Беларусі. Атрымліваецца, што ўсё гэта бачнасць, альбо прапаноўваецца зварот да вядомай канцэпцыі: «калі факты супярэчаць тэорыі, тым горш для фактаў».

Звычайны спосаб праверкі навуковых даных — паўтарэнне вопыту, эксперымента. Здавалася б, гэта ўмова выконваецца. Да такой жа, як і ў Г. М. Сакаловай, высновы прыйшла група сацыёлагаў Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам кандыдата філасофскіх навук Ж. М. Грышчанка ў красавіку мінулага года (дарэчы, гэтыя даныя выкарыстоўвае Г. М. Сакалова ў сваім параўнаўчым аналізе). У снежні мінулага года нашы калегі — сацыёлагі Інстытута сацыялогіі выявілі, што 72,3 працэнта апытаных за тое, каб у Беларусі былі дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская.

У гэтых і шэрагу іншых даследаванняў, праведзеных на месцах, у анкету ўключаліся прамыя пытанні аб мове, што некарэктна з метадычнага пункту гледжання. Фармулёўка сацыялагічных пытанняў для анкеты альбо інтэрв'ю — справа надзвычай тонкая і адказная. Вопыт апошніх гадоў паказаў, як цяжка сфармуляваць адэкватныя пытанні для рэферэндума. Першы рэферэндум аб лёсе Саюза аб'яднаў у адну групу і тых, хто галасаваў за Саюз як звышдзяржаву, і тых, хто скіраваўся да садружнасці раўнапраўных, суверэнных дзяржаў. Аўтары двухсэнсавага пытання перахітрылі ў першую чаргу саміх сябе. Што ж датычыцца сацыялагічных даследаванняў, то ў іх прамыя пытанні дапушчальныя толькі тады, калі высвятляецца думка рэспандэнтаў аб фактах, падзеях. Але і тут сацыёлаг павінен прадугледзець спосабы замера інфармаванасці, калі, напрыклад, чалавек не чытаў Закона аб мовах альбо толькі чуў нешта аб ім, то яго адказы трэба ануляваць, незалежна ад таго, «за» ён ці «супраць».

Прынцыпова іншы падыход пры вывучэнні ўстановак. Няма сумнення, што адносіны да мовы не сітуатыўныя альбо функцыянальныя, а ўстановачныя, экзістэнцыяльныя. «Мова — дом побыту», — сказаў нямецкі філосаф Хайдэгер. Вядома, і вывучэнне ўстановак мовы насельніцтва патрабуе распрацовак адэкватных, валідызаваных методык. Аб гэтым мне даводзілася размаўляць з калегамі, у тым ліку і з аўтарамі названых артыкулаў, выступаць на вучоных саветах у БДУ і ў нашым інстытуце. Мне кажуць, што пры любых методыках будуць атрыманы тыя ж даныя. Але адрозненне ўсё ж такі будзе настолькі, наколькі навуковы факт адрозніваецца ад факта індывідуальнай альбо групавой свядомасці. Аднак ёсць падставы меркаваць, што даныя, якія адлюстроўваюць тэндэнцыю змены масавай свядомасці, будуць іншыя. Разгледзім, напрыклад, дынаміку рэальнага двухмоўя па выніках перапісу насельніцтва рэспублікі ў 1970 і 1989 гадах. За гэтыя гады колькасць беларусаў, якія свабодна валодаюць рускай мовай, узрасла на 8,1 працэнта. Гэта вялікае культурнае дасягненне беларускай нацыі, і ніхто — ні насельніцтва, ні заканадавец — не хочуць яго страціць. Але ж працягваўся і той працэс, аб якім з такой горыччу казаў М. Багдановіч у вядомай «Пагоні»: «колькасць беларусаў, якія страцілі сувязь з нацыянальнай мовай (якія не лічаць яе роднай і не валодаюць, ёю як другою), узрасла больш чым у два разы, з 397,2 тыс. да 813,4 тыс. чалавек». Словы паэта: «...Не давайце чужынцамі быць!» — звернуты да свайго народа да радавой памяці і нацыянальнай самасвядомасці. Як бачым, сёння яны не менш актуальныя, чым у 1916 годзе, калі былі напісаны.

Колькасць рускіх, якія свабодна валодаюць беларускай мовай, узрасла на 3,9 працэнта і склала ў 1989 годзе 328,6 тыс. чалавек. Гэтыя людзі ўжо вырашылі для сябе праблему мовы.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

# Яго галоўная

Так здарылася, што да самага апошняга часу пра асобу Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча, гэтага выдатнага сына беларускага народа, пісалі ў асноўным гісторыкі. Прычым іх цікавілі, у першую чаргу, вельмі непрацяглы перыяд актыўнай палітычнай дзейнасці С. М. Некрашэвіча (1917—1920 гг.) і ягоны ўклад у арганізацыю беларускай навукі. І гэта зразумела, бо як кіраўнік разнастайных нацыянальных камітэтаў і цэнтраў 20-х гадоў і буйны арганізатар навукі, які стаяў ля вытокаў Інбелкульта і Беларускай Акадэміі навук, С. М. Некрашэвіч назаўжды ўвайшоў у гісторыю нашай рэспублікі.

Разам з тым, як і ў кожнага сапраўднага вучонага, сярод багатай навуковай спадчыны С. М. Некрашэвіча ёсць працы, якія не сталі з цягам часу проста набыткам гісторыі і захавалі сваю навуковую каштоўнасць да сённяшніх дзён.

Гэтыя працы прысвечаны разгляду найбольш актуальных праблем беларускай лексікаграфіі, якая па агульнаму прызнанню гісторыкаў і мовазнаўцаў з'яўлялася асноўнай сферай навуковай дзейнасці С. М. Некрашэвіча. Тут, перш за ўсё, варта адзначыць падрыхтаваныя ім (сумесна з М. Я. Байковым) «Беларуска-расійскі слоўнік» (1926), другое выданне якога павінна сёлета пабачыць свет, і «Расійска-беларускі слоўнік» (1928) на 60 тысяч рэестравых слоў. На думку вядомага гісторыка беларускага мовазнаўства І. К. Германовіча, «перакладныя слоўнікі С. М. Некрашэвіча і М. Я. Байкова з'явіліся важным этапам у гісторыі нацыянальнай лексікаграфіі і аж да выхаду ў 1953 годзе «Русско-белорусского словаря» пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі і ў 1962 годзе «Беларуска-рускага слоўніка» пад рэдакцыяй К. Крапівы заставаліся найбольш грунтоўнымі працамі гэтага тыпу» (Германовіч І. К. Аб навуковай дзейнасці Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча // Веснік БДУ. Сер. IV, 1972. № 3. С. 37). Трэба дадаць, што складальнікі памянёных вышэй перакладных слоўнікаў 50—60-х гадоў выкарысталі ў сваіх працах пераважную большасць беларускіх слоў са слоўнікаў С. М. Некрашэвіча і М. Я. Байкова, але па вядомых палітычных прычынах (шматлікія абвінавачанні аўтараў гэтых слоўнікаў у «нацдэмаўшчыне») спаслацца на выкарыстаныя ў якасці першакрыніц лексічнага матэрыялу слоўнікі 20-х гадоў не змаглі. Застаецца шкадаваць, што толькі зараз, на зыходзе XX стагоддзя, з'явілася магчымасць перавыдаць гэтыя каштоўныя лексікаграфічныя працы С. М. Некрашэвіча і М. Я. Байкова.

Прыкметны след сваімі працамі С. М. Некрашэвіч пакінуў не толькі ў галіне практычнай слоўнікавай працы. Яшчэ больш важкі ўклад унесены ім у распрацоўку тэарэтычных асноў беларускай лексікаграфіі. У прыватнасці, з яго імем звязаны пачатак працы па стварэнні

◆ *ЯНЫ БЫЛІ ПЕРШЫМІ* ◆

# ЛЯ ВЫТОКАЎ НАВУКІ БЕЛАРУСІ

**Выдатны дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння і арганізатар навукі Беларусі, мовазнавец Сцяпан Міхайлавіч Некрашэвіч нарадзіўся 8 мая 1883 г. у вёсцы Данілаўка былога Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер Светлагорскі раён Гомельскай вобласці). У 1908 г. скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю, у 1913 г.— Віленскі настаўніцкі інстытут. У 1914—1918 г.г. знаходзіўся на вайсковай службе. Быў членам Беларускай Сацыялістычнай Грамады і партыі беларускіх эсэраў. У 1918—1920 г.г. загадваў беларускай секцыяй пры губернскім аддзеле народнай асветы горада Адэсы.**

У другой палове 1920 г. пасля вызвалення ўсходняй часткі Беларусі ад польскіх акупантаў С. М. Некрашэвіч пераязджае ў Мінск. З гэтага часу да пачатку 30-х гадоў працягваўся кароткі але найбольш прадукцыйны перыяд яго жыцця, калі асабліва ярка праявіліся яго здольнасці як таленавітага вучонага-мовазнаўца і буйнога арганізатара навукі. Запрошаны на працу ў Наркамат асветы рэспублікі, ён займае пасады пераважна па навукова-адміністрацыйнай частцы, перш загадчыкам літаратурна-выдавецкага аддзела, пасля намеснікам старшыні Акадэмічнага цэнтра (старшынёй згодна палажэння з'яўляўся нарком Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі), які кіраваў навуковымі і асветнымі ўстановамі рэспублікі. Так, у кастрычніку 1921 г. у складзе Акадэмічнага цэнтра налічвалася 17 структурных падраздзяленняў, у тым ліку Тэрміналагічная камісія, Мінскае медыцынскае таварыства, педагагічная, рэдакцыйная, музейная, бібліятэчная, літаратурная, тэатральная, архіўная камісіі, сакратар па арганізацыі Інстытута беларускай і яўрэйскай культуры і інш.

С. М. Некрашэвіч быў адным з ініцыятараў стварэння інстытута, які б займаўся вывучэннем беларускай культуры. Ідэя аб арганізацыі Інстытута беларускай культуры ўпершыню была выказана ім у студзені 1921 г. на сходзе работнікаў асветы і культуры, які быў скліканы Наркамасветы БССР. Была створана камісія па распрацоўцы статута Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта). Аднак, улічваючы недахоп навуковых кадраў і адсутнасць дастатковых сродкаў Наркамасветы БССР у лютым 1921 г. стварыў першапачаткова ў сваім складзе Тэрміналагічную камісію для чыста практычных задач — распрацоўкі беларускай тэрміналогіі па ўсім галінам ведаў у аб'ёме курса сярэдняй школы, якую ўзначаліў С. М. Некрашэвіч. Толькі за год свайго існавання камісія ў складзе 18 чалавек апрацавала каля 3 тысяч тэрмінаў на беларускай мове і пачала іх публікацыю.

К канцу 1921 г. камісія ў складзе С. М. Некрашэвіча, Я. Ф. Карскага і Я. Л. Дыла распрацавала статут Інбелкульта. Гэты і наступныя яго статуты, улічваючы спецыфіку навуковай творчасці, усталёўвалі дэмакратычныя прынцыпы арганізацыі навуковай дзейнасці і, у першую чаргу, вызначалі выбарнасць яго членаў і кіруючых органаў, самастойнасць у рашэнні ўнутраных пытанняў работы інстытута. У пачатку 1922 г. Інстытут беларускай культуры, стаўшы пераемнікам Тэрміналагічнай камісіі, фактычна распачаў сваю дзейнасць. Першым старшынёй Інбелкульта стаў Сцяпан Некрашэвіч, вучоным сакратаром Уладзіслаў Чартынскі, правадзейнымі членамі Яўхім Карскі, Янка Купала, Якуб Колас, Язэп Лёсік, навуковымі членамі — Алесь Круталевіч, Чэслаў Радзевіч, Мікалай Азбукін, Мікалай Гуткоўскі, Міхаіл Грамыка, Змітрок Бядуля, Міхаіл Піятуховіч, Мікалай Байкоў і інш.

У 20-е гады, калі ідэалагічны націск на інтэлігенцыю з боку дзяржавы і партыі быў не такі жорсткі, як у наступныя гады, кіраўніцтву Інбелкульта і яго супрацоўнікам пашанцавала ў значнай меры рэалізаваць свае ідэі. На працягу першых гадоў свайго існавання Інбелкульт пад кіраўніцтвам С. М. Некрашэвіча асноўную ўвагу ўдзяляў распрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі па такім галінам ведаў, як матэматыка, фізіка, хімія, заалогія, геаграфія, логіка і псіхалогія, тэорыя літаратуры, падрыхтаваны да выдання руска-беларускі слоўнік. Напісанне падручнікаў для школ па беларускай мове, чытанне курсаў па беларусазнаўству таксама ў значнай меры праводзілася супрацоўнікамі інстытута. Сам С. М. Некрашэвіч, даючы ацэнку першым гадам працы інстытута, пісаў у лістападзе 1924 г. у газеце «Савецкая Беларусь»: «Галоўнай працай Інбелкульта за два мінулых гады працы з'яўлялася апрацоўка беларускай літаратурнай мовы. За гэтую працу ён узяўся невыпадкова. У культурным жыцці кожнага народа галоўнай асаблівасцю культуры нацыі з'яўляецца мова гэтай нацыі».

С. М. Некрашэвіч прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы «Палажэння аб Інстытуце беларускай культуры», зацверджанага ЦВК і СНК БССР у ліпені 1924 г., згодна з якім інстытут станавіўся вышэйшай дзяржаўнай навуковай установай у Беларусі. Шырокія перспектывы развіцця Інбелкульта былі адкрыты пастановай СНК БССР ад 8 кастрычніка 1924 г., якой Наркамату асветы рэспублікі, у склад якога тады ўваходзіў інстытут, даручалася «рэарганізаваць Інбелкульт у сталую вышэйшую навукова-даследчую ўстанову, якая павінна займацца сістэматычнай і планавай распрацоўкай пытанняў навукі і культуры...» Пачынаецца карэнная рэарганізацыя структуры інстытута, пашыраецца тэматыка яго навуковых даследаванняў не толькі ў галіне гуманітарных навук, але і ствараюцца навуковыя структуры, якія займаюцца вывучэннем навук аб прыродзе.

Аднак неспадзявана ў пачатку студзеня 1925 г. С. М. Некрашэвіч быў камандзіраваны Наркамасветы БССР у Ленінград у навукова-даследчы інстытут па мове і літаратуры пры Ленінградскім універсітэце, дзе ён паўтара года займаўся ў якасці навуковага супрацоўніка 1-га разраду пад кіраўніцтвам акадэміка Карскага даследаваннямі па беларускай мове. А старшынёй Інбелкульта выбіраецца нарком асветы БССР У. М. Ігнатоўскі. Разам з тым, вярнуўшыся ў ліпені 1926 г. у Мінск, ён быў камандзіраваны Інстытутам беларускай культуры ў Польшчу для доследаў па пытанням беларускай мовы. Потым узначальвае аддзел мовы і літаратуры Інбелкульта, з'яўляючыся адначасова загадчыкам кафедры жывой беларускай мовы.

С. М. Некрашэвіч прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу ў лістападзе 1926 г. Ім было зроблена два грунтоўныя даклады: «Сучасны стан вывучэння беларускай мовы» і «Да пытання аб рэформе нашага правапісу». Вынікам канферэнцыі было стварэнне спецыяльнай камісіі на чале з С. М. Некрашэвічам, якой даручалася падрыхтаваць праект новага правапісу. Было вырашана пакласці ў аснову беларускага правапісу ўжо апрабаваны на практыцы правапіс Б. Тарашкевіча з некаторымі ўдакладненнямі і дапаўненнямі. У 1930 г. праект быў апублікаваны і разасланы спецыялістам для абмеркавання. Але рэпрэсіі, якія разгарнуліся ў пачатку 30-х гадоў, у тым ліку і супраць членаў камісіі, не далі давесці гэту справу да завяршэння. Рэформу пад сцягам барацьбы з так званым беларускім нацыяналізмам даводзілі ўжо іншыя людзі. Была дадзена ўстаноўка не ствараць «штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі». Аб шырокім абмеркаванні новага праекту не магло быць і гаворкі, ўсё праводзілася ведамасным шляхам. Скончылася ўсё пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., згодна з якой уводзіўся шэраг арфаграфічных змен у ранейшы правапіс, у тым ліку і славуты 9 пункт пастановы, які ўводзіў класавы прынцып ў арфаграфію: «інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканні».



**Фотаздымак С. М. НЕКРАШЭВІЧА са следчай справы «Саюза вызвалення Беларусі», другая палова 1930 г. Друкуецца ўпершыню.**

Арганізацыйную і навуковую дзейнасць С. М. Некрашэвіч сумяшчаў з педагагічнай працай у Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе чытаў курс беларускай дыялекталогіі на педагагічным факультэце. У 1928 г. ён уваходзіць ва ўрадавую камісію па стварэнню Акадэміі навук на базе Інстытута беларускай культуры, стаў найбольш актыўным удзельнікам гэтай рэарганізацыі, а потым — віцэ-прэзідэнтам і адным з першых правадзейных членаў Беларускай Акадэміі навук. Адначасова з'яўляўся дырэктарам Інстытута мовазнаўства і старшынёй арфаграфічнай камісіі і камісіі па стварэнню слоўніка жывой народнай гаворкі, з 1 студзеня 1928 г. і старшынёй Галоўнавукі пры Наркамасветы БССР.

Але нядоўга яму засталося працаваць на ніве беларускай навукі. У сувязі з сфабрыкаванай справай так званай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» у 1930 г. было арыштавана 108 чалавек, у тым ліку 25 былых членаў партыі беларускіх эсэраў, сярод іх і Сцяпан Некрашэвіч. Гэта быў першы ўдар па беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, ад якога яна доўга не магла ачуняць, а ў многім вынікі яго адчуваюцца і сёння.

16 кастрычніка 1929 г. пастановай СНК БССР С. М. Некрашэвіч быў вызвалены ад абавязкаў віцэ-прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук. 13 жніўня 1930 г. рашэннем прэзідыума Беларускай Акадэміі навук ён быў выключаны са складу членаў прэзідыума акадэміі і зняты з загадвання аддзелам гуманітарных навук, з пасады дырэктара Інстытута навуковай мовы і старшыні слоўнікавай і аспіранцкіх камісій акадэміі.

21 ліпеня 1930 г. С. М. Некрашэвіч разам з В. У. Ластоўскім быў арыштаваны Томскім АДПУ па прапанове АДПУ Беларусі на параходзе «Табольск» на рацэ Абі, куды яны накіроўваліся даследаваць побыт землякоў у далёкай Сібіры. Каму і навошта было патрэбна разыграць гэтую трагікамедыю, калі іх з лёгкасцю можна было арыштаваць і ў Мінску?

Пасля доўгіх і пакутлівых 10 месяцаў зняволення, допытаў, голаду і бяссоння ў турмах пастановай камісіі АДПУ БССР ад 10 красавіка 1931 г. С. М. Некрашэвіч быў асуджаны і сасланы ў г. Сарапул (Удмурцкая АССР) тэрмінам на 5 гадоў, дзе працаваў спачатку планавіком-эканамістам кааператыўна-прамысловай арцелі інвалідаў, а потым бухгалтарам канторы «Заготзерно». Паўторна арыштаваны ў 1937 г. і ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19 снежня 1937 г. ён быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання і ўжо на наступны дзень расстраляны ў Мінску.

Так закацілася зорка выдатнага сына беларускага народа, першага старшыні Інстытута беларускай культуры, аднаго з першых акадэмікаў нашай акадэміі Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча, які для беларусаў заўсёды застанецца прыкладам добрасумленнасці і чысціні, адным з тых, хто не шкадаваў сябе, каб адрадзіць нацыянальную культуру.

**М. ТОКАРАЎ,**
**С. ЯКУШЭВІЧ,**
**супрацоўнікі групы гісторыі навукі Інстытута гісторыі АНБ.**

# справа

**поўнага слоўніка жывой беларускай мовы. У 1925 годзе С. М. Некрашэвіч у сувязі з гэтым пісаў, што «у сучасны момант сярод усёй іншай навуковай працы на Беларусі мы не бачым другой такой важнай, патрэбнай і неадкладнай, як праца па ўкладанні слоўніка нашай мовы. А дзеля гэтага не трэба шкадаваць ні сіл, ні сродкаў» (Полымя, 1925, № 5. С. 186). Наколькі своечасовым для развіцця маладой беларускай навукі і культуры было гэтае пачынанне С. М. Некрашэвіча сведчыць хаця б той факт, што менавіта са складання поўнага слоўніка сваёй нацыянальнай мовы пачыналі сваю дзейнасць такія славутыя цяпер Расійская, Французская, Фларэнційская і многія іншыя акадэміі навук.**

**Прычым, дзякуючы асабістым намаганням С. М. Некрашэвіча, праца над стварэннем поўнага слоўніка жывой беларускай мовы з самага пачатку была забяспечана ў тэарэтычных адносінах і набыла неабходны арганізацыйны размах. Так, агульная канцэпцыя слоўніка, асноўныя крыніцы лексічнага матэрыялу і метадалагічныя прынцыпы яго апрацоўкі былі выкладзены С. М. Некрашэвічам у грунтоўным артыкуле «Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы» (Полымя, 1925, № 5. С. 164—186), які па сённяшні час застаецца адной з лепшых прац па тэорыі беларускай лексікаграфіі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць агульную канцэпцыю поўнага слоўніка жывой беларускай мовы, прапанаваную С. М. Некрашэвічам у дадзеным артыкуле, з агульнай канцэпцыяй шматтомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (1977—1984). У адрозненне ад складальнікаў апошняй лексікаграфічнай працы, якія па ўзору чатырохтомнага «Словаря русского языка» (1957 — 1961) імкнуліся адразу стварыць жорстка нарматыўны акадэмічны даведнік па беларускай лексіцы, С. М. Некрашэвіч разумеў, што для маладой беларускай літаратурнай мовы, працэс фарміравання лексічных нормаў якой яшчэ на той час далёка не скончыўся, першнаперш трэба стварыць агульны тлумачальны даведнік накшталт слоўніка У. І. Даля. У такі агульны слоўнік, на думку С. М Некрашэвіча, павінна быць уключана ўся лексіка з літаратурных твораў, з дыялектных запісаў, з папярэдніх лексікаграфічных прац.**

**Усведамляючы маштаб пастаўленай задачы, С. М. Некрашэвіч прапанаваў наступную арганізацыю працы над слоўнікам: «Зразумела, што праца па ўкладанні слоўніка мусіць быць калектыўная. У галаве гэтай працы павінна стаяць Слоўнікавая Камісія з асоб, якія маюць належную філалагічную падрыхтоўку і дасканала ведаюць народную і літаратурную мову... Вядома, што па ўкладанні слоўніка павінны працаваць не толькі члены Слоўнікавай Камісіі, але і іншыя члены Інстытуту Беларускай Культуры. Наш слоўнік мусіць быць не слоўнікам Камісіі, а ўсяго Інстытуту, а таму і кожны член яго павінен прыняць актыўны ўдзел у апрацаванні слоўніка» (Полымя, 1925, № 5. С. 185). У другім сваім артыкуле С. М. Некрашэвіч дадае: «Заданні камісіі вельмі вялікія, — яна павінна злажыць такі слоўнік, які б адбіў усю беларускую літаратурную і народную мову, мову ўсіх дыялектаў нашай народнай мовы. Зразумела, сіламі адной камісіі гэтую працу выканаць нельга: тут патрабуецца самая шырокая дапамога беларускага грамадзянства, і безумоўна, у першую чаргу, краязнаўчых арганізацый» (Некрашэвіч С. Мовазнаўчая праца краязнаўчых арганізацый // Працы першага ўсебеларускага краязнаўчага з'езду. Мн., 1926, С. 52).**

**Як старшыня Слоўнікавай камісіі Інбелкульта, С. М. Некрашэвіч зрабіў і неабходныя практычныя захады, каб далучыць да збору лексічнага матэрыялу для слоўніка шматлікіх краязнаўцаў, лік якіх на Беларусі ў той час даходзіў да 10 тысяч чалавек. Шматлікія адозвы і звароты Слоўнікавай камісіі Інбелкульта («Да беларускага настаўніцтва», «Што зроблена ў справе збірання слоўнікавага матэрыялу на месцах за 1926 год?», «Як запісваць народны слоўнікавы матэрыял у 1927 годзе» і іншыя) да сваіх добраахвотных памочнікаў далі добрыя вынікі — на канец 1927 года картатэка Слоўніка жывой беларускай мовы налічвала звыш 400 тысяч картакслоў (Гл.: Наш край, 1930. № 3. С. 66). На жаль, беспадстаўныя сталінскія рэпрэсіі супраць беларускіх мовазнаўцаў у сярэдзіне 1930 года перапынілі іх паспяховую працу па ўкладанні поўнага слоўніка жывой беларускай мовы, а сабраная імі вялізная слоўнікавая картатэка загінула падчас Вялікай Айчыннай вайны.**

**Тым не менш, тэарэтычныя працы С. М. Некрашэвіча па беларускай лексікаграфіі, створаныя ім перакладныя слоўнікі, распрацаваныя ім прынцыпы ўкладання тлумачальных, перакладных, дыялектных і тэрміналагічных слоўнікаў і сёння з поспехам выкарыстоўваюцца ўдзячнымі нашчадкамі, якія, будзем у гэта верыць, давядуць да канца галоўную справу яго жыцця — стварэнне поўнага слоўніка жывой беларускай мовы.**

**В. ШЧЭРБІН,**
**кандыдат філалагічных навук.**

